Аднойчы я вяртаўся ўвечары з паездкі дадому. Былі каталіцкія дзяды, і на тым беразе Дзісёнкі мігцелі свечачкі. Усё наваколле, здаецца, было залітае мірыядамі агнёў, і гэта было так прыгожа і ўражліва, што хацелася плакаць ад замілавання.

Гэта былі мясціны, звязаныя з вандроўкамі Язэпа Драздовіча, мастака, філосафа, наіўнага і думнага беларуса, які ўсё сваё жыццё прысвяціў роднаму краю і памёр, як народны святы, сярод людзей, не маючы ўласнай хаты і сям'і.

Пра Язэпа Нарцызавіча і яго творы распавядалі мне ў мястэчку Германавічы настаўнікі мясцовай школы Ада Райчонак і Клімен Кожан. Яны стварылі музей Драздовіча, хай школьны, саматужны, але ж першы і адзіны на той час музей, прысвечаны гэтаму выбітнаму дзеячу нацыянальнай культуры.

Там, у Германавічах, я яшчэ раз пераканаўся, які цесны свет, як шмат у ім неспадзяванага.

Аказваецца, Ада Эльеўна некалі, маладой дзяўчынай, працавала ў нашым прыгарадным саўгасе, жыла ў нашым пасёлку і не раз трымала мяне, малога, на руках.

Чым не сюжэт для перадачы «Жди меня»?

Тут, у Германавічах, з велічным касцёлам у цэнтры мястэчка, я ўпершыню пачуў пра Вацлава Ластоўскага, імя якога было тады забаронена, пабываў на старажытных могілках, дзе пахавана маці Язэпа Драздовіча.

Там раскрываўся непазнаны да гэтага свет, яркай старонкай айчыннай гісторыі.

## ІКЕБАНА Ў ДРУІ

Я ніколі раней не мог сабе ўявіць, што ў нашых краях жыве столькі незвычайных цікавых людзей. Старанна выконваючы рэдакцыйныя заданні, асвятляючы сяўбу і жніво, вытворчыя будні хімічных гігантаў і полацкага шклозавода, я стараўся ў кожнай паездцы, кожнай журналісцкай камандзіроўцы адшукваць такіх людзей, расказваць пра іх па радыё.

Неяк даведаўся, што ў мястэчку Друя на Браслаўшчыне жыве цікавы чалавек, які збірае камяні, стварае з іх прыгожыя кампазіцыі.

Жыў ён з сям'ёю на самым ускрайку звычайнай вясковай вуліцы. Але як толькі я ўвайшоў у двор, здалося, што апынуўся ў нейкім чароўным царстве камянёў.

Круглыя, пукатыя, прамавугольныя, маленькія і вялікія, яны стваралі цэлы фасад, цэлыя мікравуліцы. Некаторыя з іх нагадвалі незвычайных звяроў, птушак, рыб, некаторыя — велічных віцязяў з дзіцячых казак…

І ўсю гэтую ікебану стварыў звычайны местачковец, не абцяжараны вялікай адукацыяй, у тым ліку мастакоўскай ці дызайнерскай.

І вось ён сустракае мяне на сваім панадворку. Высокі, мажны, з доўгімі русявымі вусамі. І нечакана на суровым сялянскім твары — амаль дзіцячы позірк сініх вачэй.

Разгаварыць яго было цяжка, як і цяжка перадаць у словах усю экзатычную прыгажосць яго тварэнняў.

— Ну што там такога? Хаджу, гляджу, дзе камень які. Потым бяру цялежку, гружу, прывожу.

— Ну а вось гэты? — я паказаў на вялізны валун.

— Суседа прасіў. Разам на трактар пагрузілі, прывезлі.

Жонка вяскоўца была больш гаварлівай.

— Спачатку суседзі казалі, маўляў, дзіўны твой Бейнарт, а потым сталі прыходзіць, глядзець, захапляцца. А тут і праўда прыгожа, і дзецям падабаецца. А мне што? Харошы чалавек, гарэлкі не п'е, і вось прыгажосць любіць. А так па гаспадарцы ўсё спраўна.

*Працяг будзе.*